№ 53 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1. м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.
Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 53 (249). Год III. Вільня, 9 ліпня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 8 ліпня.

### Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* Артылерыйская чыннасьць крапчэла ў вечары. У начы яна момэнтамі даходзіла вялікай сілы. Ажыўленые разьведкі. Сільные наступленьні ворагаў пры Мэрі і на поўдні ад Ліс адбіты.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* На заходзі ад Шато-Т'еры—жывейшы агонь. Наступленьні ворагаў проці адрэзку Кліньён і на палудзенным заходзі ад Рэймса адбіты.

---

МАСКВА (В.Т.Б.). Каб дабіцца прыёма ў графа Мірбаха, абодва забойцы парупіліся аб пасьведчэньне, што яны члены камісіі дзеля барацьбы с контрэвалюцыей і заявілі, што маюць загад ад вэнгерскага афіцэра Мірбаха, каторы нават ня свой нямецкаму паслу. Пасьля кароткай гутаркі с паслом забойцы пачалі страляць з рэвальвэраў, кінулі ручные гранаты і выскачылі праз вакно. На вуліцы ждаў гатовы самаход, на каторым забойцы і ўцяклі. Чычэрын, Карахан, Ленін і Сьвердлов заявілі членам нямецкага пасольства, што ліхадзейства ня гэтулькі кіравалося проці Нямеччыны, колькі проці большэвікоў. Дом соцыял-рэвалюцыянераў, у каторых цяпер нехватае іх кіраўнікоў —Камкова і Спірыдоновай, акружэн большэвіцкім войскам. Далевых соц.-рэв. прылучылася правая часьць, Савінков і агенты саюзьнікаў. Савінков паддзержывае зносіны с чэха-славакамі і меншэвікамі. Пры Керэнскім ён быў ваенным міністрам. За пакушэньне на Мірбаха павінен адказываць Савінков. Нямецкі ўрад выказаў расейскаму ўраду сваё цвёрдае перакананьне, што ліхадзеі і падбіўшые іх на ліхадзейства будуць узяты і пакараны. Адзін с членаў большэвіцкага ўраду пасяліўся ў доме нямецкага пасольства, каб паказаць, што большэвікі прынялі яго пад сваю апеку.

БЭРЛІН. Соцыял-рэвалюцыанеры ў апошніе дні на работніцкіх сходках востра напалі на большэвікоў, трэбавалі адрачэньня ад берасьцейскае ў мовы і выдаленьня немцаў з Масквы. Яны пускалі чуткі, быццам немцы маняцца пасласць войска ў Маскву. Ленін заявіў, што гэта—брэхня, каторую зумысла пускаюць саюзьніцкіе паслы. На партыйным конгрэсе левых соцыял-рэвалюцыанераў большасьць прамоўцаў дамагалася разрыву берасьцейскай умовы. Вялікую ролю між соцыл-рэвалюцыанерамі іграюць украінцы, уцёкшые пасьля разгона Рады с Кіева.

БЭРЛІН. Абодва забойцы графа Мірбаха укрыліся ў доме, занятым соцыял - рэвалюцыанерамі прыхільнікамі саюзьнікаў, каторы баронен кулямётамі. Есьць думка, што забойства пасьля павінно было быць сыгналам дзеля паўстаньня прыхільных да саюзьнікаў соцыял - рэвалюцыанераў. У Маскве адбываюцца бітвы, канец каторых невядомы.

БУКАРЭШТ. Румынскі ўрад маніцца аддаць румынскае казначэйства ў Маскве ў Крэмлю пад абарону нямецкага пасольства.

БУКАРЭШТ. У часе гутарак у Сэнапе аб ратыфікацыі міра сэнатор Герота вінаваціў у сустрэўшым Румынію нешчасьці і караля Фэрдынанда, каторы не павінен быў даваць волі Братіану, калі-б кароль быў больш энэргічны, дык вайны не было-б. Ніхай-жэ тое, што здарылося, будзе навукай на будучыну.

Маргілёман адказаў, што адказ за вайну ляжыць на ўсей лібэральнай і часьці консэрватыўнай партыі. Цэнтральные дзержавы ніколі не вымагалі зьмены дынасты.

ВЕНА (В.Т.Б.). Газэты друкуюць весткі с Парыжа і Рыма аб бытцым адбыўшыхся пераменах у вышэйшай камандзе аўстрыяцкай арміі. Весткі гэтые, мэта каторых—зусім ясная, выдуманы ад пачатку да канца.

МАСКВА (П.Т.А.) Вестка, бытцым нямецкіе ваенна-палонные заўладалі Іркуцкам, фальшыва. Палажэньне тамтэйшага савету — крэпкае.

ВАШЫНГТОН (Рэўтэр). Марскі дэпартамэнт апавешчае, што ваенны транспорт „Конвэктор“, 16 339 тонн, у панядзелак у начы, вяртаючыся дамоў затоплен.

ВАРШАВА. Пасьля першых заседаньняў дзержаўнай рады вытварыліся новые партыйные організацыі. Гэтак утварылася констытуцыйна-монархічная група с 14 членаў саюза адбудовы польскай дзержаўнасьці. Прэзыдыум яе злажэно з гр. Ростворовскага, Беліньскага і Завадзкага. Новую партыю становіць такжэ партыя дэмакратычнай палітыкі, члены каторай—актывісты, вярнуўшыеся з Расеі і не з найшоўшые сабе месца і працы ў істнуючых у Польшчы палітычных партыях.

## НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ.

КІЕУ. Беларуская дэлегацыя зьвярнулася да Ракоўскага, галавы расейскай мірнай дэлегацыі ў Кіеві, з мэморыалам аб незалежнасьці Беларусі. Дэлегацыя ўспамінае аб прызнаньні незалежнасьці Беларусі цэнтральнымі дзержавамі. Ракоўскі мэморыалу гэнага не прыняў.

---

*Вільня, 9 ліпня 1918.*

Контррэвалюцыйны рух у Расеі с кожным днём прынімае ўсё болей выразные формы. Папраўдзі, тамака цяпер можна заўважыць два аснаўные кірункі, каторые, хоць і дзеляцца на розные ручайкі, ды абодва кіруюцца да аднае мэты: да вызваленьня Расеі з большэвіцкай анархіі, павароту монархіі і завядзеньня ладу. Кірункі гэные розьняцца адно тым, што адзін хочэ заводзіць лад у Расеі с падмогай Англіі і ўсяе коаліцыі, а другі лічыць патрэбным прызваць дзеля ўпарадкаваньня Расейскае дзержавы немцаў.

Ня будзем рабіць загадак, каторы с памянутых кірункаў мае больш данных дайсьці перэвагі. Даволі сказаць, што над большэвізмам зьбіраецца грозная бура, адгалоскі каторай прагудзяць бязспорна далёка за межамі Расеі. А разам з новымі громамі і пярунамі ў Расеі—набліжаецца момэнт разьвязкі сусьветнае вайны, якая, судзячы паводлуг слоў нямецкага ст.-сэк. загр. спраў Кюльмана, залежыць ня толькі ад пабед аружжа тэй ці другой з ваюючых старон.

У агульна-эўропэйскай завірусе, калі счэзьлі старые граніцы дзержаў, калі трон расейскіх цароў аказаўся разьбітым, а дзеля адбудовы яго патрэбна помач заграгічных гасударств,—у найгоршым палажэньні аказываюцца так-званые „малые нацыі“, да ліку каторых залічаюць звычайна і дзесяцімільённы беларускі народ. Праўда, іншым з іх, можна сказаць, пашанцавало. Затое другіе могуць ждаць праўдзівай волі толькі ў прыпадку перэвагі тэй стараны, якая заінтэрэсавана ў іх незалежнасьці.

Аднак, і тут уваходзіць у ігру элемэнт, ад каторага пры сучасных адносінах залежыць усё на сьвеці. Гэта—элемэнт сілы. І беларускі народ, каторы сам аб'явіў сваю незалежнасць і сваімі ўласнымі сіламі пачаў будаваць сваю дзержаўнасьць, будзе прымушэн яшчэ абараніць здабытую волю ад тых, хто пагаліцца ўзяць яе ў нас.

На Беларусі ёсьць яшчэ лішне многа чужацкіх элемэнтаў, каторые панаехалі сюды ў розных часох ды тут і аселі. У заходняй Беларусі перэважывае такі польскі наездны элемэнт, бо маскалі ўсе ўцяклі; у ўсходняй—маскоўскі. І палякі, і маскалі адносяцца да свае новай Бацькаўшчыны, даўшай ім тут кусок хлеба, не як сыны, а як самые лютые ворагі, гатовые разьдзерці на кускі цела Беларусі. Даволі пачытаць польскіе і расейскіе газэты, даволі пазнаёміцца с палітычнымі выступленьнямі тутэйшых палякоў і маскалёў, каб пэрэканацца аб гэтым. Яны тым больш небаспечны для нашай справы, што разьедаюць наш дзержаўны арганізм с сярэдзіны, аслабляючы яго сілу.

Беларусы, будуючы сваё гасударства, павінны ясна зразумець, што *у гэты момэнт хто ня йдзе з намі—той проці нас, той нам ворагь.* Хто цяпер яшчэ працуе дзеля прылучэньня Беларусі да Польшчы, або думае аб „зьбіраньні Расеі“, пачынаючы з Беларусі і Украіны, — с тым мы будзем прымушэны бароцца не на жыцьцё, а на сьмерць, бо ўзмацаваньне гэткіх элемэнтаў суліць у будучыне безупынные недаразуменьні з нашымі суседзямі—Польшчай і Вялікарасеей і будзе прымушаць народ беларускі траціць на аружную зашчыту сваіх граніц тые сілы, якіе павінныісьці на ўнутрэнае будаўніцтва.

Гэта павінны зразумець і аселые на Беларусі палякі і вялікарусы: цяпер *ад іх самых залежыць, як збудзіўшыйся да новага вольнага жыцьця Беларускі народ, здабыўшы ўласьць у сваёй Бацькаўшчыне, будзе аднасіцца да іх.*

## Расея і Польшча.

Яшчэ недаўна дайшла да нас з Расеі вестка, што расейскі міністэр заграгічных спраў, Чычэрын, адмовіўся прыняць толькі-што тады назначэнага паўнамочніка польскай рэгенцкай рады, Ледніцкага. Толькі пасьля доўгіх перэгавораў справа гэта была неяк уладжэна.

Аднак, яна здавалася тады ўсім непадобнай да веры. Ды толькі цяперашніе новые весткі аб адносінах савецкага ўраду да польскай рэгенцкай рады і яе паўнамочніка паказываюць, што і ранейшая вестка была праўдзівая. Вось, што прачыталі мы ў тэлеграме, прысланай гэтымі днямі з Масквы:

„Прэдстаўнік польскай рэгенцкай рады, Ледніцкі, каторы меўся ўмовіцца с савецкім урадам аб польскіх уцекачох, ня прызнан народным камісарам заграгічных спраў Чычэрынам. Як на прычыну гэтага было паказано на тое, што савецкі ўрад быў прымушэн прыстаць на адарваньне Польшчы, дык ён і ня можэ прызнаць рэгенцкую раду за прэдстаўніцтва польскага народу. Савецкі ўрад у гэтых справах будзе весьці перэгаворы толькі з асобай, назначэнай нямецкімі ўласьцямі“.

Як бачым, расейскі ўрад ня лічыць польскай справы ўжо разьвязанай.

